# М. С. ХРУШЧОЎ: МЫ ПАКАЗАЛІ, НА ШТО ЗДОЛЬНЫ НАРОД, КАЛІ ЁН СТАНОВІЦЦА САПРАЎДЫ СВАБОДНЫМ, РАЗНЯВОЛЕНЫМ У ПАЛІТЫЧНЫХ І ЭКАНАМІЧНЫХ АДНОСІНАХ.

ПРАЛЕТАРЫІ ЎСІХ КРАІН, ЯДНАЙЦЕСЯ!

ЛІТАРАТУРА і МАСТАЦТВА

ОРГАН МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ І ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР.

№ 31 (1565) | Аўторак, 18 красавіка 1961 года | Цана 4 кап.

МАСКВА, 14 красавіка 1961 года. Урачыстая сустрэча на Унукаўскім аэрадроме слаўнага сына савецкага народа героя-касманаўта **Юрыя Аляксеевіча ГАГАРЫНА.** Фота **В. ГЕНДЭ-РОТЭ.** (Фотахроніка ТАСС).

# ГЕРОІКА ЧАСУ—КРЫНІЦА НАТХНЕННЯ

Усе гэтыя дні, пачынаючы з серады мінулага тыдня, былі напоўнены такім зместам, які адразу цяжка пасапраўднаму асэнсаваць. Чалавек — у космасе, там, куды яшчэ не так даўно не кожны адважваўся сігануць нават у сваёй фантазіі.

Над роднай нашай Масквой, над сталіцамі саюзных рэспублік, над гарадамі-героямі ў гонар першага ў свеце лётчыка-касманаўта Юрыя Аляксеевіча Гагарына ўзляцелі ў вясновае неба рознакаляровыя агні святочнага салюта. Красавік стаўся месяцам трыумфальнай славы не толькі першага касманаўта, грамадзяніна Саюза Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік таварыша Гагарына. Ён стаўся месяцам славы нашай краіны, нашага народа, нашай сацыялістычнай сістэмы, якая яшчэ раз прадэманстравала свае найвялікшыя перавагі перад светам капіталізму, паказала, на што здольны вызвалены народ, чаго можа дасягнуць яго разняволеная, раскаваная ад пут капіталізму энергія.

У палёце ракеты-карабля ў прасторы космасу як бы сканцэнтравалася энергія ўсяго народа, які на працягу сарака з лішнім год здолеў узняць сваю краіну са спрадвечнай адсталасці да касмічных вышынь; у ім кожны наш савецкі чалавек бачыць, як у добрым фокусе, тыя гістарычныя этапы, па якіх ішоў народ праз голад і холад, праз нястачы, да сённяшняга дня, калі наша краіна, наша любімая Радзіма паказвае прыклады ўсяму цывілізаванаму свету.

Яшчэ і цяпер сёй-той за межамі нашага сацыялістычнага свету цешыць сябе надзеяй, што нашы поспехі—гэта кароткатэрміновыя ўспышкі. Прэзідэнт Злучаных Штатаў Амерыкі містэр Кенедзі на сваёй прэс-канферэнцыі, прысвечанай палёту нашага чалавека ў космас, выказаў такую думку: «Гэтыя дыктатуры маюць многа кароткатэрміновых пераваг, якія мы бачылі ў 30-х гадах. Але, па-мойму наша сістэма лепш адпавядае якасцям і спадзяванням народа, імкненням быць гаспадаром самому сабе...» Каб так разважаць, трэба быць ці безнадзейна сляпым чалавекам ці знарок заплюшчваюць вочы на ўсё, што адбываецца навокал.

Наша сацыялістычная сістэма, самая народная, самая прагрэсіўная— гэта і ёсць тое асяроддзе, у якім разгортваецца нечуваны прастор для творчых дзярзанняў чалавека. І гэта не тэарэтычная догма, гэта пацверджана практыкай усяго нашага жыцця, гэта пацверджана тымі подзвігамі нашага народа, якімі ён не аднойчы здзіўляў свет як у барацьбе з ворагамі Радзімы, так і на франтах мірнай працы. А хіба тое, што мы першымі паслалі свае спадарожнікі, ракеты да іншых светаў, што наш суайчыннік Юрый Гагарын першым з зямных насельнікаў зірнуў сваімі вачыма ў космас, гэта таксама кароткачасовая выпадковасць?! Чаму ж тады так званы «свабодны свет» не мае такіх кароткатэрміновых перамог? Відаць, рукі караткаватыя сталі ў «свабоднага свету», відаць розум безнадзейна састарэў у яго.

Але няхай цешаць сябе заакіянскія паны ілюзіямі. А мы, савецкія людзі, усе, ад малога да вялікага, ведаем, што нашы перамогі на фронце працы, у навуцы, у пакарэнні космасу—гэта вынік тых якасцей, якія выхавала ў народзе Ленінская партыя, гэта тая рунь, якую яна пасеяла клапатлівай рукою сейбіта народнага шчасця.

Няхай што хочуць плявузгаюць на нас і пра нас паны капіталісты і іх паслугачы і найміты. Мы ведаем сваю дарогу, мы ведаем сваю мэту. Яна кліча нас маякамі камунізма наперад і наперад, і мы нікуды не збочым з яе.

Працоўны гераізм савецкага чалавека бярэ свае вытокі, як бурнаплынная рака, з крыніц народнага жыцця, з глыбіні народнага духу. Гэта добра разумее кожны савецкі чалавек, бо дзе б ні працаваў ён, што б ён ні рабіў, ён усюды ўносіць творчы пачатак у сваю працу. Ён шукальнік, ён творца, і ў гэтым адметная і непаўторная якасць савецкага чалавека.

Мы, савецкія літаратары, каму народ даў у рукі пяро для таго, каб быць летапісцамі нашага гераічнага часу, на сваіх сходах, нарадах, у друку спрачаемся аб тым, якім павінен быць герой нашых твораў. І ў гэтых спрэчках часам зыходным пунктам бяром не само жыццё, а нейкую традыцыю, тое, што ўзнікла і ўсталявалася ў мінулыя эпохі. Кожная добрая традыцыя, вядома, добрая рэч. Але ж літаратура павінна абслугоўваць і адлюстроўваць свой час, які мае свае адметныя рысы і вымярэнні. Яшчэ ж нядаўна чалавецтва не магло і падумаць пра такі гераізм, які праявіў першы наш касманаўт Герой Савецкага Саюза Юрый Аляксеевіч Гагарын. Дык хіба ж мы, савецкія літаратары, маем права прайсці міма такой падзеі?!

Гэта, вядома, не значыць, што кожны з нас павінен напісаць раман, аповесць, паэму пра першы касмічны палёт. Палёт у космас—гэта вынік творчай працы вучоных, інжынераў, тэхнікаў, рабочых, адным словам, усяго нашага народа, яго працоўнага гераізму, і калі кожны з нас, у меру сваіх сіл і здольнасцей, напіша творы пра герояў працоўных будняў, здолее ўбачыць у іх, здавалася б, будзённай працы той гераізм, які ўласцівы савецкім людзям, дык ён адлюструе характэрныя рысы нашага часу.

Некаторыя, следуючы старым канонам, шукаюць нейкіх прапорцый станоўчага і адмоўнага ў вобразе, быццам літаратура — гэта матэматыка. Літаратура — гэта само жыццё, якое не цярпіць ніякіх застыгласцей і канонаў. Варта толькі пісьменніку ўгледзецца глыбей у яго рух, зразумець яго вядучыя тэндэнцыі і ён, не прыбягаючы да дазіроўкі адмоўнага і станоўчага, знойдзе тыя прапорцыі, якія ў сукупнасці дадуць вобраз нашага сучасніка. Трэба пісаць само жыццё ў яго складанасці, але заўсёды бачыць ясную яго перспектыву, вядучую яго тэндэнцыю. Трэба пісаць чалавека ў яго шматграннасці, у складанасці яго характару, не лакіруючы і не прыхарошваючы яго, бо ён сам па сабе ў самім жыцці, у сваёй дзейнасці, у сваіх узаемадачыненнях з іншымі людзьмі найбольш поўна выяўляе характэрнасці нашага гераічнага часу. Гэта і будзе тое, чаго вымагае ад літаратара метад сацыялістычнага рэалізму. Барацьба супраць нівеліроўкі, за разнастайнасць характараў не павінна перашкаджаць нам бачыць героя нашага часу. Стварэнне гераічнага савецкага чалавека гэта і ёсць шлях да сапраўднага наватарства.

Мікіта Сяргеевіч Хрушчоў, вітаючы ад імя народа і партыі першага касманаўта, сказаў: «Рух народаў да камунізма, высакароднае імкненне людзей да гэтай вялікай мэты не можа быць зменшаны або прыпынены. Гэты рух набыў велізарную, неадольную сілу, і няма такіх перашкод, якія маглі б прыпыніць гэты вялікі працэс развіцця чалавецтва. Савецкі народ, народы сацыялістычных краін, народы ўсяго свету, у тым ліку і народы тых дзяржаў, якія яшчэ не дабіліся сваёй перамогі, але ўпарта змагаюцца за перамогу прагрэсу над эксплуатацыяй і прыгнечаннем, пераможуць, узвядуць светлы будынак камунізма. І гэта будзе вялікім шчасцем чалавецтва, вянцом яго няспыннага развіцця».

Вось тая перспектыва будучыні, з якой мы павінны звяраць свае думкі і імкненні. І нам, пісьменнікам, літаратарам, у сваіх творах трэба заўсёды выразна бачыць гэтую перспектыву. Услаўляючы гераізм нашага сучасніка мы тым самым працуем на будучыню, бо будучыня нараджаецца сёння, яна будзе лагічным працягам спраў нашых сучаснікаў. Пра гэта асабліва выразна сведчыць подзвіг савецкіх вучоных, першага ў свеце касманаўта, нашага гераічнага паплечніка Юрыя Аляксеевіча Гагарына.

Не пашкадуем жа сваіх сіл, сваіх талентаў, палымяных сэрцаў савецкіх патрыётаў для вялікай справы высокамастацкага адлюстравання нашага гераічнага часу.

**Раман САБАЛЕНКА.**

# *СІМФОНІЯ ПОДЗВІГУ*

Столькі ўжо сказана пра найвялікшую падзею нашага гераічнага часу—подзвіг Юрыя Гагарына, што цяжка падабраць прыдатныя словы, каб выказаць свае пачуцці. Усенародную радасць, цудоўны настрой, які завалодаў усімі намі ў гэтыя дні, павінна адлюстраваць, перадаць і назаўсёды захаваць нашчадкам наша мастацтва.

Мне ўяўляецца гэта як гераічная сімфонія гукаў, фарбаў, як паэтычная здравіца за розум, за адвагу і гераізм савецкага чалавека. Пройдзе нямнога часу, і падзеі гэтых дзён улягуцца ў радкі паэм, на маляўнічыя палотны, у музыцы. Мастак будзе зноў і зноў хваляваць людзей успамінамі аб велічнай перамозе чалавецтва.

У гэтай высакароднай задачы мастацтва немалая роля адводзіцца тэатру. Савецкі тэатр неаддзельны ад бурнага і цудоўнага жыцця нашай краіны. Незлічоныя яго дасягненні. І ўсё ж цяпер, думаючы пра тое, якімі крокамі ідзе да перамог наша краіна, з асаблівай вастрынёй бачым, што мастацтва тэатра адстае ад гістарычных спраў нашай эпохі, ад эстэтычных запатрабаванняў народа.

За апошні час напісана нямала пра тое, якіх нябачаных поспехаў дасягнула наша навука і тэхніка.

І як мала напісана добрых драматычных твораў пра тых, у чыіх руках знаходзяцца вынікі гэтага нябачанага прагрэсу, пра тых, хто павядзе заўтра імклівыя караблі ў бясконцыя касмічныя далі, хто да непазнавальнасці пераўтворыць нашу планету,— пра **чалавека.**

Якая па-сутнасці простая і звычайная біяграфія першага касманаўта Юрыя Гагарына. Такія людзі жывуць побач з намі. Мы ездзім разам з імі на працу, сядзім побач у кінатэатры, ходзім па адных і тых жа вуліцах і вельмі часта іх не заўважаем, рэдка ўдумваемся як мастакі ў тыя псіхалагічныя працэсы, у той рост свядомасці, якія вядуць такіх людзей на вялікія подзвігі.

Калі нам, акцёрам, удаецца перадаць гледачу сваё захапленне савецкім чалавекам, мы адчуваем сябе шчаслівымі. Але як мала ў нашай драматургіі твораў, якія б натхнялі акцёра на стварэнне такіх вобразаў.

Першымі пакарыцелямі космасу будуць бясспрэчна маладыя, дужыя, здаровыя савецкія людзі. На долю маіх выхаванцаў—маладых акцёраў Тэатральна-мастацкага інстытута выпадзе шчасце ствараць гэтыя вобразы. І як мастак, я буду бязмежна рады, калі здолею перадаць ім свой вопыт, думкі і веды, «настроіць» іх на працу шчырую, праўдзівую і натхнёную.

**Д. АРЛОЎ,**
**народны артыст БССР.**

## Юрый Гагарын—Герой Савецкага Саюза, першы лётчык-касманаўт СССР

МАСКВІЧЫ НАЛАДЗІЛІ ТРЫУМФАЛЬНЫ ПРЫЁМ ПЕРШАМУ Ў СВЕЦЕ КАСМАНАЎТУ ЮРЫЮ АЛЯКСЕЕВІЧУ ГАГАРЫНУ. РАЗАМ З МАСКВІЧАМІ СЛАВІЛІ СВАЙГО ГЕРОЯ ЎСЕ САВЕЦКІЯ ЛЮДЗІ. НАРОД НАЛАДЗІЎ ЯМУ НЕЗАБЫЎНУЮ ХВАЛЮЮЧУЮ СУСТРЭЧУ.

ЗА ГЕРАІЧНЫ ПОДЗВІГ — ПЕРШЫ ПАЛЁТ У КОСМАС, ЯКІ ПРАСЛАВІЎ НАШУ САЦЫЯЛІСТЫЧНУЮ РАДЗІМУ, ЗА МУЖНАСЦЬ, АДВАГУ І БЕЗЗАВЕТНАЕ СЛУЖЭННЕ САВЕЦКАМУ НАРОДУ, СПРАВЕ КАМУНІЗМА ПРЭЗІДЫУМ ВЯРХОЎНАГА САВЕТА СССР ПРЫСВОІЎ МАЁРУ **ГАГАРЫНУ** ЮРЫЮ АЛЯКСЕЕВІЧУ ЗВАННЕ **ГЕРОЯ САВЕЦКАГА САЮЗА** З УРУЧЭННЕМ ОРДЭНА **ЛЕНІНА** І МЕДАЛЯ **«ЗАЛАТАЯ ЗОРКА».** У МАСКВЕ БУДЗЕ ЎСТАНОЎЛЕН БРОНЗАВЫ БЮСТ ГЕРОЯ.

У АЗНАМЕНАВАННЕ ПЕРШАГА Ў СВЕЦЕ КАСМІЧНАГА ПАЛЁТУ ЧАЛАВЕКА НА КАРАБЛІ-СПАДАРОЖНІКУ ПРЭЗІДЫУМ ВЯРХОЎНАГА САВЕТА СССР УСТАНАВІЎ ЗВАННЕ **«ЛЁТЧЫК-КАСМАНАЎТ СССР».**

УКАЗАМ ПРЭЗІДЫУМА ВЯРХОЎНАГА САВЕТА СССР ГРАМАДЗЯНІНУ САВЕЦКАГА САЮЗА ЛЁТЧЫКУ МАЁРУ ЮРЫЮ **ГАГАРЫНУ** ПРЫСВОЕНА ЗВАННЕ **«ЛЁТЧЫК-КАСМАНАЎТ СССР»** ЗА АЖЫЦЦЯЎЛЕННЕ ПЕРШАГА Ў СВЕЦЕ КАСМІЧНАГА ПАЛЁТУ НА КАРАБЛІ-СПАДАРОЖНІКУ «УСХОД».

СЛАВА МУЖНАМУ, АДВАЖНАМУ СЫНУ САВЕЦКАЙ РАДЗІМЫ!

СЛАВА ПАРТЫІ ЛЕНІНА, ЯКАЯ ВЫХАВАЛА ТАКОГА ГЕРОЯ!

**Міхась КАЛАЧЫНСКІ**

## ЗЯМНОЕ, КРЫЛАТАЕ, ВЕЧНАЕ...

Казкі дзівосныя...
Крылы Ікара...
Міфы сівыя — ім тысячы год...
Можа, ты згадваў іх,
Юрый Гагарын,
Смела рвануўшыся ў горды палёт?

Зблякла
Багатая выдумкай небыль
Перад арлом, што да зор завітаў.
Шлях пракладаючы ў зорнае неба,
Ты над легендай і марай устаў.

Казачны духам
і легендарны,
З твару звычайны, да кроплі
зямны,
Здзейсніў ты першым у высях
надхмарных
Роду людскога надзеі і сны.

Мары з лятункамі
Сталіся явай,
Вечна бяссмертнай і вечна жывой.
Нашай Радзімы вялікую славу
Сын яе ўзвысіў над цэлай зямлёй.

## *У Цэнтральным Камітэце КПСС і Савеце Міністраў СССР*

**Цэнтральны Камітэт КПСС і Савет Міністраў СССР прызналі неабходным узнагародзіць ордэнамі і медалямі СССР вучоных, рабочых, тэхнікаў, інжынераў — удзельнікаў стварэння касмічнага карабля-спадарожніка «Усход» і забеспячэння першага ў свеце паспяховага палёту савецкага чалавека ў космас.**

**Адпаведным міністэрствам і ведамствам даручана прадставіць да ўзнагароды персанальны склад удзельнікаў стварэння і забеспячэння палёту касмічнага карабля-спадарожніка «Усход».**

## Прыём у Вялікім Крамлёўскім палацы

**Цэнтральны Камітэт Камуністычнай партыі Савецкага Саюза, Прэзідыум Вярхоўнага Савета СССР і Савет Міністраў СССР наладзілі 14 красавіка ў Вялікім Крамлёўскім палацы прыём у гонар выдатнага подзвігу вучоных, інжынераў, тэхнікаў і рабочых, якія забяспечылі паспяховае ажыццяўленне першага ў свеце палёту чалавека ў касмічную прастору, у гонар першага савецкага касманаўта Юрыя Аляксеевіча Гагарына.**

**На прыёме былі кіраўнікі Камуністычнай партыі і Савецкага ўрада на чале з М. С. Хрушчовым, маёр Ю. А. Гагарын, члены яго сям'і.**

# ПЕРАМОЖЦА КОСМАСУ РАПАРТУЕ

## *Урачыстая сустрэча ў Маскве*

Найвялікшая ў гісторыі чалавецтва падзея хвалюе ў гэтыя дні ўсіх людзей, якія жывуць на зямлі.

Трыумфальны палёт першага ў свеце лётчыка-касманаўта Юрыя Гагарына ўзняў прэстыж нашай Радзімы на небывалую вышыню, прынёс новую славу савецкаму народу, народутворцу, народу-пераможцу. Вось чаму такія бязмежныя наш гонар і наша радасць. Вось чаму такой шчаслівай і натхнёнай сустракала Краіна Саветаў першага падарожніка ў космас Юрыя Аляксеевіча Гагарына.

На магістралях і плошчах, расквечаных флагамі, паабапал Ленінскага праспекта выстраіліся тысячы людзей. Яны прыйшлі з першымі веснавымі кветкамі, з партрэтамі Гагарына, плакатамі, якія ўслаўляюць вялікі подзвіг, які ўвойдзе ў вякі як вялікі трыумф сацыялістычнага ладу, яго магутнай творчай сілы.

На палотнішчах, працягнутых па фасадзе будынка Унукаўскага аэравакзала, — гарачыя словы прывітання пераможцу космасу— грамадзяніну Саюза Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік Ю. А. Гагарыну. Тут жа партрэты Ул. І. Леніна, М. С. Хрушчова і Ю. А. Гагарына.

Для сустрэчы героя-касманаўта да 12 гадзін дня на аэрадром прыбываюць таварышы Л. І. Брэжнеў, М. Г. Ігнатаў, Ф. Р. Казлоў, А. М. Касыгін, О. В. Куусінен, Н. А. Мухітдзінаў, М. В. Падгорны, Д. С. Палянскі, К. А. Фурцава, М. М. Швернік, П. М. Паспелаў, Д. С. Каротчанка, Я. Э. Калнберзін, А. П. Кірыленка, К. Т. Мазураў, Г. І. Воранаў, В. В. Грышын. У ліку сустракаючых — члены Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР А. А. Андрэеў, К. Я. Варашылаў, намеснікі Старшыні Савета Міністраў СССР, міністры СССР і РСФСР, старшыні Дзяржаўных камітэтаў, члены Цэнтральнага Камітэта КПСС і кандыдаты ў члены Цэнтральнага Камітэта КПСС, Маршалы Савецкага Саюза, кіраўнікі партыйных і савецкіх арганізацый Масквы і Маскоўскай вобласці і многія іншыя.

У 12 гадзін 30 хвілін на аэрадроме робіць пасадку прыгожы чатырохматорны «ІЛ». Ён прыляцеў з раёна Сочы. З гэтым самалётам прыбыў таварыш М. С. Хрушчоў. Разам з ім прыбылі таварышы А. І. Мікаян і В. П. Мжаванадзе.

На трыбуне побач з кіраўнікамі партыі і ўрада — Валянціна Гагарына, жонка лётчыка-героя, родныя Юрыя Гагарына, якія прыбылі са Смаленскай вобласці: яго бацька, маці, сястра і браты. Мікіта Сяргеевіч сардэчна вітаецца з імі.

У 12 гадзін 37 хвілін па аэрадрому праносяцца хвалюючыя словы: «Самалёт, самалёт Гагарына». Эскартуемы сямю знішчальнікамі, праходзіць над аэрадромам «ІЛ-18». На борце яго — доўгачаканы, дарагі наш суайчыннік, які першы праклаў шлях чалавецтву ў бязмежныя далі Сусвету. Самалёт робіць круг пашаны над Масквой. Ваенны аркестр выконвае мелодыю песні «Добро пожаловать в Москву», напісанай у гонар Юрыя Гагарына.

— Пайшоў на пасадку! — адзначаюць карэспандэнты, якія нацэлілі свае фота- і кінаапараты ў неба.

Ля берагу чырвонага дывана самалёт спыняецца, і па трапу хутка спускаецца маёр Гагарын. Яго сустракаюць воклічамі «Ура!» і бурай апладысментаў. Чоткім, хуткім крокам маёр Гагарын накіроўваецца да трыбуны. Колькі энергіі, маладосці ў яго паходцы, які прыгожы яго адухоўлены твар! Аркестр выконвае любімую песню лётчыкаў — «Мы рождены, чтоб сказку сделать былью».

Сто крокаў па чырвоным дыване, і вось маёр Гагарын перад Мікітам Сяргеевічам Хрушчовым. Узяўшы руку пад казырок, ён дакладвае:

**«Таварыш Першы сакратар Цэнтральнага Камітэта Камуністычнай партыі Савецкага Саюза, Старшыня Савета Міністраў СССР!**

**Рады далажыць Вам, што заданне Цэнтральнага Камітэта Камуністычнай партыі і Савецкага ўрада выканана.**

**Першы ў гісторыі чалавецтва палёт на савецкім касмічным караблі «Усход» 12 красавіка паспяхова зроблены.**

**Усе прыборы і абсталяванне карабля працавалі чотка і бездакорна.**

**Адчуваю сябе выдатна.**

**Гатовы выканаць новае любое заданне нашай партыі і ўрада. Маёр Гагарын».**

Адусюль нясецца:

— Добры дзень, таварыш маёр! Добры дзень, Юрый Аляксеевіч!

Мікіта Сяргеевіч здымае капялюш і моцна, па-бацькоўску цалуе героя, абдымае яго і зноў цалуе.

— Віншую! Віншую!—гаворыць ён касманаўту.

Мікіта Сяргеевіч знаёміць героя з членамі Прэзідыума ЦК КПСС. Усе яны сардэчна вітаюць Юрыя Аляксеевіча. Потым ён трапляе ў абдымкі маці, жонкі, бацькі, братоў і сястры.

За гэтай сустрэчай з хваляваннем сачылі не толькі тыя, хто сабраўся на Унукаўскім аэрадроме, але і ўся Масква, увесь Савецкі Саюз, амаль уся Еўропа, сачылі, затаіўшы дыханне, радуючыся таму, як Радзіма ўшаноўвае свайго адважнага сына.

Ён палюбіўся народу адразу, наш Юрый Аляксеевіч Гагарын. Цяперашняе пакаленне верыла, што палёт Масква — космас — Масква, які адкрывае новую эру ў гісторыі чалавецтва, будзе зроблены ўпершыню савецкім чалавекам. І як гэта цудоўна, што ён зроблены!

М. С. Хрушчоў і Ю. А. Гагарын праходзяць уздоўж радоў прысутных на аэрадроме масквічоў. Іх суправаджае наша магутнае рускае «Ура!»

Праз некалькі хвілін М. С. Хрушчоў, Юрый Гагарын і яго жонка сядаюць у блакітную адкрытую машыну, упрыгожаную гірляндамі чырвоных руж. Машыны накіроўваюцца да Масквы. На ўсім шляху следавання ад Унукава да Краснай плошчы радасныя масквічы, сотні тысяч масквічоў сустракалі картэж машын раднаснымі воклічамі — «Герою космасу — ура!», «Партыі камуністаў — слава!»

## СЛОВЫ ШЧЫРАГА ЗАХАПЛЕННЯ

**П**АВЕДАМЛЕННЕ аб першым палёце савецкага чалавека ў космас мы чакалі даўно. Чакалі з хваляваннем і гадалі: калі гэта адбудзецца? Хто ён — першы шчаслівец? І ці можна будзе потым паціснуць яму руку?

І вось гэты дзень настаў. Чалавецтва пераступіла мяжу, якая аддзяляла яго ад Сусвету. Вешчыя словы геніяльнага Цыялкоўскага аб тым, што чалавецтва не прыкавана навечна да зямлі, становяцца явай.

І адбылося гэтае дзіва так проста: раніцай чалавек падняўся ўвысь на трыста кіламетраў, абляцеў зямлю і праз гадзіны паўтары вярнуўся са свайго падарожжа на снеданне.

Ды такога яшчэ і ў казках не расказвалася! У казцы «Лятаючы карабель» герой ляціць на караблі толькі да цара на абед. Наш савецкі лятаючы карабель абагнаў самую дзёрзкую фантазію.

Цяжка скупымі словамі перадаць думкі і пачуцці, якія авалодалі намі ў гэты час. Гонарам напоўніліся нашы сэрцы і за тых, хто зрабіў гэты подзвіг, і за сябе як грамадзяніна вялікага Савецкага Саюза.

У тыя незабыўныя хвіліны, калі наш савецкі пілот камуніст Юрый Гагарын пралятаў над мацерыкамі і краінамі, карэспандэнты перадавалі, што людзі (і не толькі нашы) плакалі ад радасці, незнаёмыя віншавалі адзін аднаго, цалаваліся. Як гэта зразумела ўсім нам! Людзі сэрцам адчулі вялікую перамогу розуму і працы. Прыйшла новая вясна чалавецтва. Вясна яднання на новыя подзвігі ў імя міру і прагрэсу.

І ўжо выразней пачынае прабівацца спакуслівая думка: што ж цяпер і планеты не за гарамі... Праўда, сам Цыялкоўскі не асмеліўся назваць XX стагоддзе стагоддзем прагулак на Марс. Але, відаць, наш савецкі час абганяе і яго геніяльныя прадбачанні.

Слава людзям, якія зрабілі казку быллю!

Слава першаму касмічнаму пілоту — лётчыку Савецкага Саюза Юрыю Гагарыну!

**Алесь ЯКІМОВІЧ.**

* * *

**У** ГЭТЫЯ незабыўныя дні мы яшчэ раз па-сапраўднаму адчулі: «Чалавек — гэта гучыць горда!» Нашы сэрцы напоўнены радасцю, што чалавецтва ў асобе савецкага простага чалавека зрабіла яшчэ адзін бяспрыкладны подзвіг. Мы бясконца ганарымся і мужнасцю першага касманаўта Юрыя Аляксеевіча Гагарына, і калектыўным розумам вучоных, інжынераў, тэхнікаў, рабочых, якія стварылі магчымасць паспяховага касмічнага палёту. Мы бясконца ганарымся нашай савецкай Радзімай, нашай роднай Камуністычнай партыяй, якія забяспечылі такія ўмовы для развіцця навукі, такія арганізатарскія і вытворчыя магчымасці, каб палёт стаў яваю.

У нас нядрэнная памяць, і мы добра памятаем тую падножку, якую хацелі зрабіць нам палётам Паўэрса перад вельмі важнай нарадай, перад якой ставілася высакародная задача ўмацавання міру. Мы не забылі і іншых падобнага роду спроб. Скончыліся яны ганебным правалам. Мы ж яшчэ раз паказалі ўсяму свету, што нашы вучоныя з удзелам, дарэчы, сказаць, і лётчыкаў заняты мірным асваеннем космасу.

Свет доўга будзе памятаць пра легендарны палёт маёра Гагарына. Пра гэты палёт шмат яшчэ будуць гаварыць і пісаць. І ён гэтага заслугоўвае.

**Янка ШАРАХОЎСКІ.**

Салют у Мінску 14 красавіка ў гонар першага касманаўта Юрыя Гагарына.

